У нумары: Дарогі назад няма | Бунт | Суседкі


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (454) | ГОД IX | 8 ЛІСТАПАДА 1964 г. | ЦАНА 60 гр.


## ГУК МАЛАЦІЛКІ Ў ДЗЯНІСКАХ

Залатая восень Дзянісак калыхала белымі бярозамі над новымі дамамі. Сонца залівала вёску, заглядала ў бясшыбыя яшчэ вокны новай хаты солтыса Шымана Аксенюка. Не — гэта ўжо хата яго сына. Аксенюковая сказала: мы са старым будзем мець у ёй свой пакойчык.

Пакуль што солтыс Шыман Аксенюк сядзіць у цёмным свіранку за простым сталом. Перад ім паперы, рахунковыя кніжкі і... куча грошай. Бухгалтэрыя вясковага солтыса. Вядзем размову аб працы солтыса, аб ім самым пры гэтай кучы грошай. Жонка заглядае ў дзверы: «Чаго грошы так ляжаць?» «Злодзеяў няма», — адказвае солтыс.

Трэцюю кадэнцыю солтысам у Народнай Польшчы, быў яшчэ і да вайны, разам 15 гол. Пытаю аб параўнанні, як цяпер і як калісьці. «Калісьці чапляліся ўсё, паліцыя два-тры разы ў тыдзень улятала ў вёску, ломатам будзіла ўночы. І нічога не плацілі. Цяпер 600 злотых і права да пенсіі». Для Шымана Аксенюка гэта нешта ёсць. Ён інвалід. Але солтыс талковы. З людзьмі трэба частавата і перагаварыцца з-за падаткаў, ці іншага, загаварыць да іх пачуцця абавязку. А з гэтым пачуццём бывае па-рознаму. У Дзянісках усё аднак ідзе добра. Усё ў часе, усё складна, і да солтыса давер ёсць.

Пытаю пра перадавых, лепшых гаспадароў. Падае прозвішчы Яна Казлоўскага, Фёдара Врублеўскага. Абодва маюць па шмат зямлі, звыш 10-ці, 15-ці гектараў, усе гаспадарскія машыны, дзяржаве прадаюць многа мяса, малака (Врублеўскі гадуе 8 штук быдла), збожжа. Гэта гаспадары на шырокую ногу. Пытаю ў солтыса, якімі сіламі абрабляюць яны сваю зямлю. «Самі, зусім самі», — ідзе адказ і яшчэ раз, што — «яны ж маюць машыны». Што значыць машына ў сельскай гаспадарцы можа ведаць толькі той, хто яе мае цяпер, але не меў раней. Не задавальняюся гэтым і яшчэ раз пытаю: што ён думае аб малых гаспадарках.

(Працяг на стар. 3)

## ВІНАВАТЫ — АЛЕ ХТО?

Не тыя часы, калі Кленікі на падабенства другіх вёсак тачыў чарвяк адсталасці. Спарахнелая непаваротлівасць праходзіць, вырастае новае буйнае жыццё.

— Прачнуліся!

Гэтае слова любіць часта паўтараць Сяргей Галёнка, старшыня мясцовай грамадскай рады. Перад усім, рушыла наперад будаўніцтва. Толькі ў бягучым годзе трыццаць пяць гаспадароў узялі грашовыя пазыкі на гаспадарскае будаўніцтва — ставяць мураваныя хаты, хлявы, гумны. Некаторыя з іх думаюць нават аб драцяной агароджы з цэментавымі стоўбчыкамі.

— Прыгожа будзе!

Насупраць грамадскай рады, па другі бок вуліцы, знаходзіцца драўляная школа, крытая іржаваю бляхаю, старая. Старшыня Галёнка глядзіць праз акно на гэту школу і ўголас разважае:

— На лета зробім ёй рамонцік і перад зімою перавядзем да яе бюро рады ды грамадскую бібліятэку...

Трэба ведаць, што каля Пракапюковага млына будуецца новая школа, якой няма роўных, мабыць, і ў самой павятовай Гайнаўцы. — Такая яна высокая, вялікая!

У сувязі з такой аказіяй кленіцкая грамадская рада намецілася пакінуць сваю арэндаваную сядзібу ў Максімюковай хаце — цесную сядзібу. Аднак, аказваецца, што на гэту аказію чакаюць з нецярплівасцю і асветныя ўлады, якія таксама мецяцца на гэты стары будынак цяперашняй школы, бачаць у ім магчымасць урэгуляваць пэўныя памяшкальныя справы мнагалюднай школы. Словам, малая вайна вісіць на валаску і кожны мае свае важкія рацыі... Здаецца, зараз больш думаюць аб тых рацыях, чым аб высокай будове, якая ўжо ідзе сваім ходам, хаця і спозненым як заўсёды ва ўсіх будоўлях. Таксама і з пабудовай малачарні. Але лепш пазней чым ніколі, праўда? Дарэчы, размешчана яна ў зручным месцы, ля скрыжавання вясковых дарог у напрамку Чыжоў і Гародчына. Будаўнікі малачарні асцярожныя — каб мець добры калодзеж і здаровую ваду зрабілі пяцьдзесят цэментавых кругоў (баняў). Тут надзвычай цяжка дабрацца да смачнай, крынічнай вады. Ого, не заўсёды дакапаешся нават да звычайнай вады. Сымон Максімюк пабудаваў калодзеж на дваццаць кругоў і суха ў ім, ані кроплі! Потым свідраваў яшчэ на 5—7 кругоў і да нічога не дасвідраваўся.

У час вечаровага вадапою ў кленіцкіх калодзежах не хапае вады. Вечная засуха, як Кленікі Кленікамі! Шчаслівы калодзеж мае Васіль Шэшка, куды зыходзіцца за вадою палавіна вёскі.

(Працяг на стар. 4)



Гордасцю жыхароў Гродна з'яўляецца азатукавы завод. (Да фотарэпартажа «Горад над Нёманам». Стар. 3).

## ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬСКІМ РАДЫЕ

З 19 па 25-га кастрычніка г.г. у Польскім Радыё працягваўся Тыдзень беларускай культуры.

Радыёслухачы пазнаёміліся з творчасцю чатырох вядомых беларускіх празаікаў. Чыталіся цікавыя ўспаміны Максіма Лужаніна аб класіку беларускай літаратуры п.з. «Якуб Колас расказвае»; фрагмент новай аповесці Івана Шамякіна «Сэрца на далоні», прадстаўляючай барацьбу беларускіх партызан і канспірацыйных груповак з гітлераўскім акупантам; навелу Рамана Сабаленкі «Пад адным цынялём» аб перажываннях салдата, які атрымлівае водпуск за гераічную барацьбу на фронце. Апошняй пазіцыяй з

(Працяг на стар. 2).








Ідучы да Кленік ад чыжоўскіх палеткаў... Фота — С. Яновіч

